©ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819-3625 № 21, 2013
ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
Інтэлектуальная сітуацыя №21(2)/2013

# Анатацыі і ключавыя словы

## Інтэлектуальная гісторыя

***Іван Новік.* Апалагетыка, пошукі саюзнікаў і барацьба за артадоксію ў 1920-я гады. Роля беларускіх савецкіх філосафаў у паўстаўванні канону савецкага марксізму**

У артыкуле разглядаюцца асаблівасці першых этапаў фарміравання савецкай філасофіі ў Беларусі. У прыватнасці аналізуецца няўстойлівасць марксісцкага канону 1920-х гадоў, закладанне асноваў новай тэрміналогіі, разнастайнасці ў разуменні гісторыі філасофскай думкі. Асаблівая ўвага надаецца разгляду прац вядомых савецкіх філосафаў, якія нарадзіліся і рабілі сваю акадэмічную кар'еру ў Беларусі: Сямён Вальфсон, Саламон Кацэнбоген, Рувім Выдра, Бернард Быхоўскі. Робіцца ацэнка ўплыву адзначаных аўтараў на стварэнне канону савецкага марксізму, а таксама практыку выкладання марксізму ва ўніверсітэтах СССР.

***Ключавыя словы:*** марксізм, беларуская філасофія, Сямён Вальфсон, Саламон Кацэнбоген, гістарычны матэрыялізм, гісторыя ідэй.

## Дакумент

***Пра дысертацыю Алі Асам Абед Алі.* (Рашэнне Вышэйшай атэстацыйнай камісіі Рэспублікі Беларусь ад 13.05.2013)**

Залежнасць беларускай палітычнай навукі ад ідэалогіі, а таксама адсутнасць для яе належных акадэмічных стандартаў, з'яўляецца сталай праблемаю. Увазе прапануецца афіцыйны дакумент (рашэнне Вышэйшай атэстацыйнай камісіі Беларусі пра адмову ў наданні ступені кандыдата гістарычных навук ), які паказвае глыбіню гэтых негатыўных працэсаў. Дакумент вылучаецца своеасаблівай аргументацыяй. Фактычна дысертацыя была адхілена з-за невыкарыстання аўтарам у сваіх развагах некаторых "тэорый змовы", ідэалагічнай няправільнасці і недастатковага антыамерыканізму. Уласна акадэмічная і навуковая аргументацыя ў прапанаваным рашэнні практычна адсутнічае.

***Ключавыя словы:*** навука, паліталогія, дысертацыі, ідэалагічны кантроль, Вышэйшая атэстацыйная камісія, антыамерыканізм.

## Дыскусія

***Інтэлектуальная сітуацыя Беларусі. Апытанне* – Алег Манаеў, Сяргей Дубавец, Андрэй Лаўрухін, Алесь Краўцэвіч, Мікалай Лявонаў, Зміцер Майбарада, Аляксей Ластоўскі, Пётра Рудкоўскі, Андрэй Ягораў**

Апытанне дзевяці вядомых беларускіх інтэлектуалаў пра агульную інтэлектуальную сітуацыю ў Беларусі. Тэкст утрымлівае адказы на пытанні пра ўплыў інтэлектуалаў на актуальны стан беларускай культуры і нацыі, стратэгіі інтэлектуальнай дзейнасці ў сучасных (крызісных) умовах. Таксама прапануюцца адказы на пытанне пра тое, з якімі палітычнымі, сацыяльным ды культурнымі выклікамі даводзіцца сёння сутыкацца беларускім інтэлектуалам.

***Ключавыя словы:*** інтэлектуальная сітуацыя, інтэлектуалы, акадэмічная супольнасць, беларускае грамадства, беларуская культура.

## Інтэлектуальная сітуацыя: абставіны і самавызначэнне мыслення

***Валянцін Акудовіч.* Дыскурс сучаснага беларускага мыслення**

У тэксце падаецца кароткая аўтарская візія асноўных этапаў эвалюцыі сучаснага беларускага мыслення з пачатку 1990-х да сённяшняга дня.

***Ключавыя словы:*** беларускае мысленне, інтэлектуальная гісторыя, гісторыя філасофіі, гісторыя ідэй.

***Таццяна Шчытцова.* Негатыўная дыялектыка вызвалення: філасофія ў Беларусі пасля 1991 года**

У тэксце прапануецца сціслы разгляд логікі і ўмоў развіцця беларускай філасофіі з 1991 года. Аналізуюцца асноўныя праблемы і выклікі для філасофіі як акадэмічнай дысцыпліны, а таксама з'явы культуры ва ўмовах сучаснай Беларусі.

***Ключавыя словы:*** беларуская філасофія, інтэлектуальная сітуацыя, гісторыя ідэй, акадэмічная супольнасць.

***Уладзімір Мацкевіч.* Практычны розум нашага часу**

У тэксце, на падставе сямі сфармуляваных тэзісаў, прапануецца сціслы аўтарскі аналіз беларускай інтэлектуальнай сітуацыі. Перш за ўсё разглядаюцца судачыненні і канфлікты "чыстага" і "практычнага" розуму, прапануецца аўтарская інтэрпрэтацыя праблемы і яе ўпісанне ў кантэкст ранейшых інтэлектуальных дыскусій.

***Ключавыя словы:*** інтэлектуальная сітуацыя, практычны розум, інжынерыя, Маркс, Кант.

***Таццяна Вадалажская.* Інтэлектуальная сітуацыя як сітуацыя мыслення**

Тэзісы каротка пазначаюць аўтарскае вызначэнне інтэлектуальнай сітуацыі ў Беларусі. Інтэлектуальная сітуацыя разглядаецца як сітуацыя здзяйснення мыслення.

Вызначаюцца наступныя ўмовы мыслення: аганальнасць і змястоўная напружанасць, звязанасць з практыкай і існаванне працяглых нявырашаных праблем.

***Ключавыя словы:*** інтэлектуальная сітуацыя, мысленне, інтэлектуальная супольнасць.

*Павал Баркоўскі.* **Інтэлектуальны маніфест тут і цяпер**

Падаецца аўтарскае разуменне інтэлектуальнай сітуацыі ў сучаснай Беларусі. Асаблівая ўвага надаецца вылучэнню надзённых патрэб і выклікаў перад інтэлектуальнай супольнасцю – неабходнасць упісаць сваё мысленне ў гістарычны кантэкст, крытыкаваць і нанова вызначаць сэнсы ў сучасным грамадстве, адмовіцца ад апісальнасці мыслення і перайсці да яго тэматызацыі.

***Ключавыя словы:*** інтэлектуальная сітуацыя, інтэлектуалы, гістарычны кантэкст, дэканструкцыя.

*Ігар Падпорын.* **Як мы мыслім (крытычныя накіды да даследаванняў і даследчыкаў грамадства ў Беларусі)**

Тэкст прапануе сціслае пазначэнне асаблівасцяў мыслення беларускіх інтэлектуалаў, якія займаюцца даследаваннем сучаснага грамадства. У якасці асаблівасцяў вылучаюцца спецыфічныя стасункі (залежнасць) ад улады, пашыранасць ідэалагічнай рыторыкі і ідэалагічнага абгрунтавання ідэй, састарэласць тэрміналогіі і тэарэтычных схем, туманнасць пры выкладанні думкі.

***Ключавыя словы:*** беларуская навука, стан сацыяльных і гуманітарных дысцыплін, мысленне, навука і ўлада.

*Вячаслаў Бабровіч.* **Беларускія інтэлектуалы – нялюбае “дзіця” ў патрыярхальнай “сям'і”**

Тэкст прапануе сціслае апісанне ўзаемаадносін інтэлектуалаў і ўлады ў сучаснай Беларусі. Разглядаецца, якім чынам інтэлектуалы ўключаны ў палітыку, што ўлада прапаноўвае і што патрабуе ад інтэлектуальнай супольнасці, якое месца ёй адводзіцца ў грамадстве і як інтэлектуалы прымаюць гэтыя ролі. У якасці схемы для аналізу выкарыстоўваецца аналогія з патрыярхальнай сям’ёй, у якой інтэлектуалам адводзіцца роля “нелюбімага дзіцяці”.

***Ключавыя словы:*** інтэлектуальная сітуацыя, беларускія інтэлектуалы, навука і ўлада, патрыярхальная сям’я, патэрналізм.

*Аляксандр Сарна.* **“Двайны агент”: інтэлектуал на службе ў дзяржавы**

Тэкст прапануе схему спалучэння сацыяльных роляў – эрудыта, эксперта, інтэлігента. Разглядаецца складаная сістэма дачыненняў эрудытаў, экспертаў і інтэлігентаў з уладай, грамадствам, ведамі. Пазначаны асноўныя стратэгіі і мадэлі паводзінаў у сучасным інтэлектуальным полі Беларусі.

***Ключавыя словы:*** эрудыт, эксперт, інтэлігент, веды і ўлада, спажыванне веды.

## Рэцэнзіі (палітычныя навукі)

***Вадзім Смок.*** **Навука апраўдання аўтарытарызму.** *Котляров, Игорь и Веруш, Алла (2010). Государственное управление и политическое лидерство: социально-политический анализ*

Рэцэнзія разглядае манаграфію, напісаную дырэктарам Інстытута сацыялогіі НАН Ігарам Катляровым і дацэнтам Акадэміі кіравання Алай Веруш. Адзначаецца неадпаведнасць працы навуковым крытэрам і яе скіраванасць на акадэмічнае абгрунтаванне легітымнасці сучаснага палітычнага рэжыму ў Беларусі.

***Ключавыя словы:*** аўтарытарызм, дзяржаўнае кіраванне, ідэалогія, найноўшая гісторыя Беларусі, палітычнае лідарства.

***Аляксандр Пагарэлы.*** **Спрадвечнае памежжа.** *Andrew Savchenko (2009). Belarus – A Perpetual Borderland*

У рэцэнзіі аналізуецца праца амерыканскага даследчыка беларускага паходжання, які разглядае Беларусь як краіну, што паўстала на мяжы заходняй і усходняй цывілізацыяў. Робіцца крытычны агляд асноўных пазіцый аўтара, а таксама раскрываюцца агульныя праблемы рэпрэзентацыі Беларусі ў англамоўнай літаратуры.

***Ключавыя словы:*** беларуская нацыя, Беларусь, памежжа, цывілізацыйны падыход, культурны разлом.

***Вадзім Быліна.*** **Дэсаветызацыя як палітычны праект.** *Десоветизация в контексте трансформации беларусского общества (2012)*

У рэцэнзіі разгледжаны зборнік артыкулаў, які з'яўляецца вынікам даследавання, праведзенага Цэнтрам еўрапейскай трансфармацыі ў 2012 годзе. Даследаванне было прысвечана стану працэсаў дэсаветызацыі ў розных сферах жыцця Беларусі: працы і занятасці, навукі, прадпрымальніцтва, святочнай культуры і інш.

***Ключавыя словы:*** савецкае, дэсаветызацыя, ідэнтычнасць, ідэалогія, дзяржаўная палітыка, святочная культура.

## Рэцэнзіі (сацыяльныя дысцыпліны)

***Аляксей Ластоўскі.*** **Непазбыўныя руіны марксізму.** *После советского марксизма: история, философия, социология и психоанализ в национальных контекстах (Беларусь, Украина) (2013)*

У рэцэнзіі разглядаецца калектыўнае даследаванне стану сацыяльна-гуманітарных навук у Беларусі і Украіне пасля 1991 года. Адзначаецца піянерскі характар гэтага даследавання, разгляд праблематычных і разам з тым ігнараваных пытанняў, найперш тэарэтычных і метадалагічных арыентацый сацыяльна-гуманітарных навук. Пры гэтым у разгляданай манаграфіі досыць шмат недапрацаванасцей, і асноўны акцэнт у рэцэнзіі робіцца на дыялагічнае дапаўненне лакун даследавання.

***Ключавыя словы:*** сацыяльныя і гуманітарныя навукі, метадалогія, навуковыя школы, дыскурс-аналіз.

***Алена Агарэлышава.*** **Вобраз і медыум: паміж навукай і відовішчам.** *Сарна, Александр (2012). Образ и медиум: визуальный текст в массовой коммуникации: сборник статей*

Рэцэнзія на зборнік навуковых артыкулаў, апублікаваных з 2000 па 2011 гады і прысвечаных аналізу месца і ролі візуальных вобразаў у сістэме сучасных мас-медыя.

***Ключавыя словы:*** візуальная рэпрэзентацыя, візуальныя вобразы, інтэрнэт, кінематограф, мас-медыя, тэлебачанне.

## Рэцэнзіі (гісторыя)

***Сяргей Астанковіч.*** **Анталогія палітычнай думкі пасляховага суседа.** *Літоўская палітычная думка, канец XIX – пачатак XX стагоддзя (2013)*

У рэцэнзіі разглядаецца анталогія Літоўскай палітычнай думкі канца XIX – пачатку XX стагоддзя. Анталогія складаецца з перакладаў на беларускую мову прац найбольш значных пачынальнікаў літоўскага нацыянальнага руху.

***Ключавыя словы:*** літоўскі нацыянальны рух, Літва, нацыянальнае адраджэнне, гісторыя канца XIX – пачатку XX стагоддзя, нацыятварэнне.

***Сяргей Кузняцоў.*** **"Цярноўнік Крэсаў" вачыма "караняжа".** *Gizela Chmielewska (2010). Cierń Kresowy. Opowieść o Edwardzie Woyniłłowiczu i jego rodzinie*

Рэцэнзія на кнігу польскай даследчыцы Гіжэлі Хмелеўскай, прысвечаную беларускаму і польскаму грамадска-палітычнаму дзеячу Эдварду Вайніловічу і гісторыі яго сям'і. Побач з вядомымі звесткамі ў працы прадстаўленыя непублікаваныя раней крыніцы – прыватныя лісты Вайніловіча, перапіска паміж родзічамі, сямейныя здымкі і дакументы.

***Ключавыя словы:*** Эдвард Вайніловіч, беларуска-польскія дачыненні, эліты Беларусі пачатку XX стагоддзя, краёўцы, біяграфія.

***Аляксандр Пагарэлы.*** **Ментальная мапа "іншага": "усход" праз нямецкую оптыку.** *Liulevicius, Vejas Gabriel (2009). The German Myth of the East. 1800 to the Present*

У рэцэнзіі разглядаецца манаграфія амерыканскага даследчыка, прысвечаная нямецкім мітам і стэрэатыпам аб усходняй частцы Еўропы (ад Волгі да Балтыкі і Балканаў) і яе народах з 1800 года і да нашых дзён. У рэцэнзіі аналізуюцца агульныя пазіцыі аўтара па гэтым пытанні, а таксама выказваюцца асобныя крытычны заўвагі.

***Ключавыя словы:*** Усходняя Еўропа, Германія, германскі нацыяналізм, нацыянальныя стэрэатыпы, нацыянальныя міты.

***Анатоль Вялікі.*** **Заходні погляд на беларусізацыю.** *Marková, Alena (2012). Sovětská bělorusizace jako cesta k národu: iluze nebo realita?*

Рэцэнзія на кнігу чэшскай даследчыцы беларускага паходжання, якая разглядае прычыны непаспяховасці спробаў утварэння мадэрнай беларускай нацыі праз аналіз працэсу "беларусізацыі" 20-х гадоў XX стагоддзя.

***Ключавыя словы:*** беларусізацыя, БССР, гісторыя Беларусі пачатку XX стагоддзя, нацыябудаванне, нацыянальная палітыка.